**Выдавец:**
Прыватнае прадпрыемства «Дарога на Вільню плюс», пасв. №391053932, выд. 12.10. 2009 г. Глыбоцкім РВК.
Перыядычнасць – 1 раз на тыдзень, дзень выхаду – чацвер.

**Выдаецца са снежня 1994 года**

**№ 28 (901) 13 ліпеня 2017 года.**
**Кошт свабодны.**

Штотыднёвая газета

# Вольнае Глыбокае

vglybokaye@tut.by



**Лета сёлета капрызнае! Трэба напоўніцу скарыстоўваць кожны пагожы дзень. На здымку: нарыхтоўка сена ля в. Зарубіна.**
*Фота Ул. Скрабатуна.*



ISSN 2077-8023





**Увага!!!**
**Газету «Вольнае Глыбокае» можна выпісаць на 2-е паўгоддзе 2017 г ва ўсіх паштовых аддзяленнях «Белпошты» Віцебскай вобласці.**
**Індэксы выдання**: індывідуальная – 63668, кошт падпіскі на 1 месяц – 3 руб. 96 кап.; **ведамасная** – 636682, кошт падпіскі на 1 месяц – 7 руб. 31 кап.

## Верхнядзвінскі раён

# Для сяброў няма граніц

■ Станіслаў Раманчук.

**Штогод у пачатку ліпеня па ўсёй Беларусі аддаюць даніну памяці і павагі ветэранам вайны і працы, якія выстаялі ў гады вайны і аднавілі разбураную краіну.**

А ў Верхнядзвінскім раёне ўжо шмат гадоў такія мерапрыемствы носяць міжнародны характар. Яшчэ ў далёкім 1959 годзе на стыку трох рэспублік : Беларусі, Латвіі і Расіі - там, на беразе рачулкі Сінюха, быў насыпаны Курган Дружбы і сталі сустракацца воіны і партызаны, якія сумесна змагаліся з фашысцкай навалай. Вось і сёлета там адбылася такая 58-я па ліку сустрэча, а яе арганізатарам стаў расійскі бок. На хвалюючую сустрэчу прыехалі прадстаўнікі з усіх куткоў Прыдзвіння, Пскоўскай вобласці і з Рыгі. Па традыцыі яны ўсклалі вянкі і кветкі да помніка расійскай падпольшчыцы Марыі Пынто, да стэлы героям Прошкаўскага падполля і перадалі кошык з кветкамі да помніка латышу, герою Савецкага Саюза, Іманту Судмалісу праз дзяржаўную граніцу. Главы дэлегацый паставілі свечкі, памаліліся ў капліцы, а пасля ўрачыстага мітынгу і канцэрта, паказальных выступленняў воінаўдэсантнікаў 76-й гвардзейскай дывізіі, турніру па валейболе нарадзілася новая традыцыя такіх сустрэч. У прыгожым лясным масіве ўпершыню школьнікі Верхнядзвінскага і Себежскага раёна РФ запалілі маладзёжны Касцёр Дружбы ад факела з агнём на галоўным мануменце. Вакол цэнтральнай алеі ўсіх уразіла шматметровае пано, на якіх маладыя жыхары Пскова вышылі імёны сваіх родных, якія ўдзельнічалі ў вайне. Усе жадаючыя змаглі напісаць “Пісьмы ў мінулае” ў выглядзе знакамітых трохвуголак, якія былі сабраныя ў спецыяльную капсулу, яе ўскрыюць нашчадкі толькі праз 40 гадоў.

## Пастаўскі раён

# На радасць спажыўцам

■ Кастусь Александровіч

**Напярэдадні галоўнага дзяржаўнага свята – Дня Незалежнасці па традыцыі беларусаў стараюцца чымсьці парадаваць.**

Вось і ў Паставах сёлета ў адным з буйных жылых мікрараёнаў вуліцы Станкевіча адкрыўся фірменны магазін “Ганна” адной з вядучых у краіне Віцебскай бройлернай птушкафабрыкі. Сваю адпаведную гандлёвую марку гэта прадпрыемства зарэгістравала яшчэ ў 2005 годзе і з гэтага часу гарантуе спажыўцам бездакорную якасць прадукцыі з мяса птушкі. На фабрыцы робяць цяпер звыш 230 найменняў ахаладжанай і гатовай мясной прадукцыі, якая паступае ва ўласную гандлёвую сетку з шэрагу гандлёвых цэнтраў, магазінаў, кафэ і нават у адзін свой рэстаран. Канешне ж, большасць крам прадстаўлены ў абласным цэнтры, але яны таксама працуюць яшчэ ў Новалукомлі, Гарадку, Оршы, Шуміліне, Дуброўне, Навапалацку, Лепелі. Падобны магазін у Паставах – першы ў заходніх раёнах Прыдзвіння, такая кропка павінна адкрыцца пазней і ў Глыбокім. Пастаўчане былі рады з’яўленню такой гандлёвай кропкі, бо цэны тут сталі самымі нізкімі ў райцэнтры, а асартымент каўбас, рулетаў, вэнджаназапечаных прадуктаў, субпрадуктаў, у тым ліку і прэміум-класу, самы вялікі. Да таго ж пакупніку тут прапануюць прыгатаваць на месцы і курэй-грыль рознай расфасоўкі, нават і чвэрці тушкі птушкі. Галоўнае, што ў спажыўцоў цяпер добры выбар, бо па суседстве тут працуюць магазіны і супермаркеты сетак “Еўраопта”, “Родная кута”, “Ваенгандлю”. З цягам часу ў горадзе ўзвядуць і буйны гандлёва-забаўляльны цэнтр з гіпермаркетам.

## Віцебская вобласць

# Недарэчна гінуць дзеці

■ Чэслаў Якубовіч.

**Працяглыя летнія канікулы заўсёды радавалі дзяцей і падлеткаў, але, калі іх пакінуць без належнага догляду, - чакай бяды.**

На жаль, у розных кутках вобласці адбыліся днямі трагічныя здарэнні і абарваліся зусім яшчэ маладыя жыцці. Сапраўдны шок перажыла сям’я мінчан, калі даведалася, што іх 11-гадовы сын, які прыехаў у госці да бабулі ў Лепель, загінуў побач з гарадскім пляжам. У апошні дзень жыцця ён сустрэўся з былымі сваімі аднакласнікамі, пайшоў з імі на возера. Але купацца было холадна і хлопчыкі сталі гуляць у лесе побач, ля абрыву, сталі капаць ямкі і хавацца ў іх. У той момант аднаго з іх і засыпала пяском, які забіў нават рот і нос. Калі пра гэта даведаліся дарослыя, пацярпелы ўжо страціў прытомнасць. Запусціць сэрца не ўдалося і прыбыўшым па выкліку медработнікам, школьнік загінуў. Перад гэтым трагічна загінуў крыху старэйшы падлетак з Полацка, калі яго павезла на возера з дачкой і сябрам з вёскі на сваім аўтамабілі жыхарка Фарынава. Палачанін таксама прыехаў да сваёй бабулі і памёр ад атрыманых траўм, калі легкавушка Geely патрапіла ў ДТЗ, зляцела ў кювет і перакулілася. Яшчэ адна маленькая дзяўчынка ў гасцях у бабулі ў Віцебскім раёне выпала з акна, атрымала траўмы і патрапіла ў гарбальніцу.

# Аб самым надзённым

## БЕЛАРУСІ ВАЖНА ПРАДОЎЖЫЦЬ СТАНОЎЧУЮ ДЫНАМІКУ Ў АДНОСІНАХ ЯК З РАСІЯЙ, ТАК І З ЗАХАДАМ



■ Аляксандр Цішкевіч.

**Відавочна, што сталіца Беларусі паспяхова справілася з правядзеннем такога значнага міжнароднага форуму, яшчэ болей палепшыўся станоўчы імідж беларусаў, як нацыі, у свеце. Гэта – несумненны плюс у справе замацавання пазітыўнай дынамікі ў адносінах з Захадам, бо нам патрэбны іх перадавыя тэхналогіі, інвестыцыі і крэдыты.**

Напярэдадні галоўнага дзяржаўнага свята - Дня Незалежнасці Рэспублікі Беларусь нязменны беларускі лідар даволі паспяхова зляятаў у Маскву і правёў там перамовы са сваім расійскім калегам. Ва ўсялякім разе радасны твар А. Лукашэнкі пра такі вынік яскрава засведчыў, а публічна пра гэта было сказана так: “мы подтвердили готовность продолжать конструктивный диалог, решать самые острые вопросы по всем направлениям сотрудничества”. Услед за гэтым згодна традыцыі яшчэ з савецкіх часоў па ўсёй краіне аддалі даніну памяці і павагі геранічнаму мінуламу, зрабіўшы акцэнт на падзеях мінулай вайны і 73-й гадавіны вызвалення ад гітлераўскіх захопнікаў.

Акрамя ўрачыстага сходу ў беларускай сталіцы на вуліцы выйшлі на наступны дзень танкі і калоны ракетных комплексаў, пралялецелі ў небе баявыя самалёты і верталёты, у тым ліку і расійскай авіяцыі, прайшлі войскі парадным маршам. На адно такое парадная мерапрыемства, разлічанае парадаваць мінскую публіку і насельніцтва краіны, па некаторых падліках было патрачана звыш 2,3 млн. долараў. Вярхоўнаму галоўнакамандуючаму ў ваеннай форме, падобнай на маршальскую з гербам на пагонах, прадэманстравалі таксама і трактарны балет, аўтамабілі з каўбасамі, пральнымі машынамі, халадзільнікамі і нават з керамічнай ваннай для дэкору.

Між тым, варта ведаць, што раней штогадовы бюджэт Міністэрства абароны Беларусі дасягаў 700 млн. долараў. Аднак цяпер з-за эканамічных цяжкасцей ён зменшыўся да паўмільярда. Абароназдольнасць – рэч, безумоўна, дарагая, бо на бягучую мадэрнізацыю беларускай арміі патрабуецца ў 6 разоў болей сродкаў, чым сёлета выдзелена з дзяржбюджэту. Беларусь – мірная краіна, яна мае армію і таму на правядзенне чарговага ўнушальнага параду грошай не пашкадавалі. Праўда, цяпер у сталіцы прыйдзецца шмат дзе тэрмінова латаць асфальт, пашкоджаны шматтоннай тэхнікай, не кажучы ўжо пра новы слуп, збіты на рэпетыцыі адным з танкаў Т-72. За любое задавальненне ў жыцці прыходзіцца плаціць, а пакуль народ пераканаўся, што ў беларускай арміі пэўная сіла ўсё ж маецца.

Як толькі вайскоўцы вярнуліся ў казармы, да месцаў сваёй дыслакацыі, у Мінску пачаўся маштабны палітычны форум, там працавала 26-я летняя сесія Парламенцкай асамблеі АБСЕ. Магчыма, гэта было проста супадзенне, але перад гэтым з турмы выпусцілі пад падпіску аб нявыездзе апошніх фігурантаў справы аб нібыта падпольных узброеных фарміраваннях “Белага легіёна”. Не сталі таксама арыштоўваць апазіцыянераў на чале з М. Статкевічам, якія ў цэнтры сталіцы правялі недазволенае шэсце. Увогуле было афіцыйна ўладамі заяўлена і аб капітальнай змене канцэпцыі дэкрэта № 3 аб “дармаедах”, галоўны ўпор будзе зроблены на працаўладкаванні як мага большай колькасці грамадзян.

Як вядома, перад пачаткам працы гэтага важнага форуму ў беларускай сталіцы Расія звярнулася да Беларусі і іншых постсавецкіх дзяржаў СНД з просьбай накіраваць міратворчы кантынгент за назіраннем па дээскалацыі абстаноўкі ў Сірыі. Наша Канстытуцыя і існуючая ваенная дактрына забараняе беларускім ваенным удзельнічаць у вырашэнні вострых канфліктаў за граніцай, армія служыць толькі для абароны сваёй тэрыторыі. Калі беларусы паедуць у Сірыю, то гэта могуць быць толькі добраахвотнікі і прафесійныя ваеннаслужачыя-кантрактнікі.

А ў цэлым сесію ПА АБСЕ з удзелам каля 700 дэлегатаў з 57 краін свету ў Мінску правялі ў 5-зоркавым “Прэзідэнт-Гатэлі” бездакорна, на ўзорным арганізацыйным узроўні. Падчас гэтага мерапрыемства ўзнікла і нечаканая сітуацыя. Наша краіна не падтрымала суседнюю Расію, калі руская паспрабавалі катэгарычна выступіць супраць украінскай рэзалюцыі. І хай сабе руская дэлегацыя на нас крыўдзіцца, але Беларусь – суверэнная краіна, а беларускі лідар напрыканцы ліпеня наведае Кіеў, сустрэнецца там са сваім украінскім калегам П. Парашэнка, якога ў Крамлі і на расійскіх прасторах многія проста ненавідзяць.

Нашай краіне таксама ўдалося “пракаціць” рэзкую рэзалюцыю Літвы па Беларусі, у падтрымку літоўцаў на сесіі прагаласавалі толькі 8 краін, а 20 – супраць. Беларускі лідар правёў важную сустрэчу з прадстаўнікамі кангрэса ЗША, многім удзельнікам спадабалася і выступленне А. Лукашэнкі на адкрыцці сесіі. Відавочна, што сталіца Беларусі паспяхова справілася з правядзеннем такога значнага міжнароднага форуму, яшчэ болей палепшыўся станоўчы імідж беларусаў, як нацыі, у свеце. Гэта – несумненны плюс у справе замацавання пазітыўнай дынамікі ў адносінах з Захадам, бо нам патрэбны іх перадавыя тэхналогіі, інвестыцыі і крэдыты. Да таго ж намеціўся, хоць і невялікі, але рост айчыннай эканомікі. І будзе ўсім нам добра, калі ўзровень палітычнага даверу да беларусаў у свеце будзе расці і надалей.

**Надвор'е ў Глыбокім** www. rp5ru

| | Чацвер 13.07.17 | | | | Пятніца 14.07.17 | | | | Субота 15.07.17 | | | | Нядзеля 16.07.17 | | | | Пн.17.07. | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Мясцовы час | 03 | 09 | 15 | 21 | 03 | 09 | 15 | 21 | 03 | 09 | 15 | 21 | 03 | 09 | 15 | 21 | 03 | 09 | 15 |
| Хмарнасць | | | | | | | | | | | | | | | | | | | |
| Ападкі | | | | | | | | | | | | | | | | | | | |
| Тэмпература | +15 | +20 | +21 | +18 | +13 | +12 | +17 | +14 | +10 | +13 | +18 | +15 | +11 | +16 | +20 | +17 | +13 | +18 | +22 |
| Ціск | 742 | 740 | 738 | 736 | 737 | 739 | 742 | 744 | 745 | 747 | 748 | 750 | 751 | 752 | 752 | 752 | 752 | 752 | 751 |
| Вецер м/сек | 4 Пд | 4 Пд-У | 6 Пд | 4 Пд-У | 7 Пн-З | 8 Пн-З | 7 Пн-З | 2 Пн-З | 2 Пд-З | 2 Пн-З | 1 Пн | 1 У | 3 Пд-У | 2 Пд-У | 4 Пд | 3 Пд | 4 Пд | 3 Пд | 5 Пд-З |
| Вільготнасць | 98 | 80 | 75 | 96 | 96 | 91 | 66 | 69 | 94 | 70 | 60 | 79 | 90 | 71 | 58 | 84 | 93 | 78 | 54 |

## Дзень за днём

**Беларусь атрымала 300 млн. USD крэдыту з фонду ЕААЭС. Урад зацвердзіў праект пагаднення з ЕС аб цэнтрах для мігрантаў. Упершыню ў Мінску працавала 26-я летняя сесія ПАСЕ. Беларускія банкі перайшлі на новыя нумары рахункаў. У Беларусі ўводзяць новы від воінскай службы – па мабілізацыі. Тэрміны крэдытавання льготнікаў пры ўзвядзенні жылля з дзяржпадтрымкай скарацілі да 20 гадоў. Амаль 700 тысяч беларусаў стаяць у жыллёвай чарзе. Еўра пераадолеў планку 2,2 рубля. Тэлеканал "Беларусь-3" упершыню паказаў у прамым эфіры ноччу фэст у Будславе.**

# Важнейшыя навіны свету

**Бельгія.** Яшчэ на паўгода, да 31 студзеня 2018 года савет ЕС прыняў эканамічныя санкцыі супраць асобных сектараў расійскай эканомікі і абмежаваў доступ на рынкі капіталу.

**Англія.** Дырэктар Цэнтра аналізу канфліктаў К. Джайлс пацвердзіў, што Расія задоўга да крызісу ва Украіне пачала мадэрнізацыю арміі, калі НАТО скарачала свае кантынгенты.

**Сірыя.** Каля 30 тысяч байцоў сірыйскай апазіцыі і курдскіх войск пры падтрымцы ЗША акружылі горад Ракку і закрылі баевікам-ісламістам апошні шлях да адступлення.

**Украіна.** Прэзідэнт П. Парашэнка даручыў Канстытуцыйнай камісіі змяніць статус паўвострава Крым у складзе ўнітарнай дзяржавы, краіна будзе дабівацца яго вяртання.

**Расія.** Напярэдадні выбараў, як пацвердзіла газета "Ведомости", пасля абмеркавання ва ўрадзе РФ не падтрымалі праект пенсійнай рэформы, хоць яна відавочна наспела.

**ЗША.** У краіне пачаў дзейнічаць міграцыйны ўказ Д. Трампа з забаронай уезду на 90 дзён жыхарам шасці мусульманскіх дзяржаў і мараторыем на 120 дзён на прыём уцекачоў.

**Польшча.** Урад краіны аднавіў праграму Каліноўскага дапамогі рэпрэсаваным беларусам, бо за 1,5 года з ВНУ Беларусі па палітычных матывах адлічылі 13 студэнтаў.

**Украіна.** Украінскія ваенныя ў Луганскай вобласці ўзялі ў палон 22-гадовага расійскага салдата-кантрактніка з 22-й асобнай брыгады спецпрызначэння ГРУ Мінабароны РФ.

**Расія.** Вядомы адвакат, прафесар Г. Рэзнік у знак пратэсту звольніўся з Маскоўскай юрыдычнай акадэміі, дзе аднавілі мемарыяльную дошку "магільшчыку закона" Сталіну.

**Венесуэла.** Афіцэр паліцыі падняў у паветра ў сталіцы Каракасе верталёт і абстраляў будынак Вярхоўнага суда, сітуацыя ў краіне на мяжы грамадзянскай вайны.

**Германія.** Нямецкі парламент зацвердзіў закон, які дазваляе гомасексуальным мужчынам і жанчынам заключаць юрыдычна паўнацэнныя шлюбы і ўсынаўляць дзяцей.

**Малдова.** Былы прэзідэнт непрызнанай "ПМР" Я. Шаўчук ноччу пераплыў раку Днестр, уцёк у Малдову, ён прайграў летась выбары, калі Расія згубіла давер да яго.

**Ватыкан.** Аўстралійскага кардынала Д. Пелла, цяпер казначэя Ватыкана абвінавацілі на радзіме ў распусных дзеяннях у мінулым у адносінах непаўналетніх, ён усё абверг.

**Літва.** За пару гадзін у сталіцы ў выніку ліўня з навальніцай выпала 48 мм ападкаў, часова перакрылі рух па аб'язной дарозе вакол Вільнюса, бо забілася сістэма водасцёкаў.

**Германія.** За лічаныя гадзіны ў Берліне выпала месячная норма ападкаў, у горадзе затапіла вуліцы і падвалы жылых дамоў, пажарныя выязджалі па выкліках 1400 разоў.

# Падзеі, пра якія гаворыць Беларусь

**Мінск.** Праблема ў тым, як папярэдзіў эканаміст Л. Злотнікаў, што мы становімся ў свеце з прадукцыяй сярэдняй якасці неканкурэнтназдольнымі, без рэформ будзем бяднець.

**Астравец.** МЗС Беларусі выказаў шкадаванне, што ПАСЕ прыняў літоўскую папраўку з заклікам прыпыніць будаўніцтва АЭС ля райцэнтра, усяго ў 50 км ад Вільнюса.

**Бабруйск.** Многія работнікі "Белшыны" скептычна аднесліся да заяў дырэкцыі давесці да канца года зарплату да тысячы рублёў, бо рэальна атрымоўваюць ад 300 да 700-800 руб.

**Мінск.** Старшыня Федэрацыі прафсаюзаў Беларусі М. Орда здзівіўся, што цэны на адны і тыя ж прадукты даволі істотна адрозніваюцца ў розных рэгіёнах краіны.

**Пухавічы.** Віцэ-прэм'ер урада А. Калінін наведаў пабудаваны тут за 2 гады палігон за 250 млн. USD для выпрабаванняў струннага транспарту будучага, падвясных юнібусаў.

**Мінск.** Новым кіраўніком сталічнай вобласці прызначылі 51-гадовага Анатоля Ісачанку, які раней узначальваў саўгас "Гарадзец", адкуль выйшаў у прэзідэнты А. Лукашэнка.

**Салігорск.** У адным з 63 вагонаў з калійнымі угнаеннямі цягніка "Беларуськалій" у порт Клайпеды літоўцы з беларускімі калегамі знайшлі партыю цыгарэт на 124 тысячы еўра.

**Крычаў.** Суд Цэнтральнага раёна Мінска не задаволіў іск падпалкоўніка міліцыі ў запасе І. Вусіка да МУС Беларусі аб аднаўленні на службе, ён раскрыў злоўжыванні ў РАУС.

**Івацэвічы.** Актывісткі "Руху маці 328" паскардзіліся, што ў мясцовай калоніі № 22 стала вельмі цесна, там пры норме 953 чалавекі трымаюць 1352 асуджаных наркаманаў.

**Мінск.** У пабудаваным пасля вайны Трактарным пасёлку Заводскага раёна сталіцы пачалі знасіць двухпавярховыя дамы, замест іх пабудуюць новыя, не вышэй сямі павярхаў.

**Рэчыца.** Скандальна вядомы блатны спявак, "ардэнаносец ДНР" В. Каліна абурыўся, што адмнілі яго канцэрт у пачатку жніўня, яго выступленні масава адмяняюць па Беларусі.

**Гатава.** Былы настаяцель праваслаўнага прыходу царквы св. Духа ў пасёлку каля сталіцы прызнаў у судзе сваю віну ў захоўванні дома пісталета "Браўнінг" і рэвальвера "Наган".

**Гомель.** Спроба двух расіян ноччу скрасці коней са стайні ААТ "Завідаўскае" завяршылася трагічна: адзін з іх патануў у балоце, другога – затрымала міліцыя.

**Жлобін.** Днём на тэрыторыі малочнатаварнай фермы "Кіцін" калгаса "Стэпы" са стойла выскачыў дарослы бык і забіў 53-гадовую жанчыну, работніцу сельгаспрадпрыемства.

**Мінск.** Калі ў новым сезоне КХЛ, як заявіў расійскі журналіст Р. Салаўёў, мінскае "Дынама" будзе на дне, то апусцее і 15-тысячная "Мінск-Арэна", клуб стане непатрэбным.

# Панарама ўнутрыабласных падзей

**Віцебск.** Вучоная Інстытута лесу НАН Беларусі Т. Маісеева пацвердзіла, што ў вобласці сёлета будзе слабы ўраджай чарніц і журавін, а вось грыбоў - шмат пры частых дажджах.

**Глыбокае.** На Рэспубліканскую дошку Гонару па выніках працы ў 2016 годзе занеслі імя мясцовага МКК і яшчэ 6 прадпрыемстваў і арганізацый з Віцебскай вобласці.

**Бешанковічы**. Суд раёна пакараў групу з пяці работнікаў мясцовага райпо пазбаўленнем волі ад 3 да 5 гадоў за прысваенне тавараў гандлёвай сеткі ў суме амаль 32 тысяч рублёў.

**Орша.** На палігоне паблізу горада закапалі 5 тон ялавічыны, якую не прапусцілі ў Расію і яна згніла ў рэфрыжэратары, бо гаспадар фірмы, масквіч, адмовіўся забраць мяса назад.

**Браслаў.** Для перавозак пасажыраў па міжгародных і прыгарадных маршрутах аўтапарк № 18 набыў па лізінгу яшчэ 5 новых аўтобусаў, па заяўках стаў ездзіць у аддаленыя вёскі.

**Глыбокае.** Для наведвальнікаў знакамітага храмаўвёсцы Мосарработнікі цэнтра сацабслугоўвання насельніцтва стварылі спецыяльную дачу "Мосарскі каларыт".

**Мёры**. Пракуратура Наваполацка распачала крымінальную справу за махінацыі пра закупках аленяў супраць кіраўнікоў Дзісненскага лясгаса і паляўнічай гаспадаркі.

**Талачын**. У выніку пажару раніцай па невядомай прычыне на тэрыторыі мясцовага кансервавагазаводапоўнасцю згарэў склад, які нейкі час не выкарыстоўваўся.

**Віцьба.** У мясцовай калоніі № 3 услед за жаночай турмой у Гомелі абсталявалі спецыяльны камп'ютарны клас, дзе асуджаныя змогуць атрымаць вышэйшую адукацыю.

**Орша.** На працягу тыдня праходзілі масавыя ўрачыстасці з нагоды 950-годдзя горада з удзелам ВІА "Песняры", які ўдзельнічаў у свяце паэзіі "Купала ў сэрцы маім" у Ляўках.

**Полацк.** Вечарам на трасе Р45 на Глыбокае зляцеў у кювет аўтамабіль Geely, у выніку ДТЗ загінуў 14-гадовы падлетак, дачка жанчыны-кіроўцы і малады хлопец былі параненыя.

**Ушачы.** У райцэнтры напоўнілі вадой басейн новага ФАКа, правялі яго гідратэхнічныя выпрабаванні, аб'ектаў такога ўзроўню пакуль няма нідзе болей у вобласці.

**Паставы.** Зацвердзілі і ўзгаднілі праект узвядзення яшчэ аднаго лячэбнага корпуса райбальніцы, пасля чаго Палац А. Тызенгаўза XVIII стагоддзя стане ўнікальным музеем.

**Шаркаўшчына.** Супрацоўнікі Цэнтральнага батанічнага саду НАН Беларусі прывезлі і пасадзілі 18 кустоў бэзу ля брацкай магілы воінаў у аграгарадку Лужкі.

**Талачын.** Упершыню жыхары райцэнтра адзначылі народнае свята Купалля ў абноўленым гарадскім пейзажным парку "Юзафполле", раней урачыстасці праводзілі на стадыёне.

*Служба інфармацыі "ВГ" (па звестках інфармагенцтваў і інтэрнэтрэсурсаў).*

# Алкагалізм – не распуста, а хвароба, і толькі сумеснымі намаганнямі можна пераадолець яе наступствы

## Цэнтр дапамогі залежным ад алкаголю і наркотыкаў «Светач» адзначыў першую гадавіну сваёй працы

**Святкаванне гадавіны сваёй дзейнасці ў Цэнтры адзначылі ў суботу, 8 ліпеня. На мерапрыемствы з гэтай нагоды прыехалі госці з Мёраў, Паставаў, Глыбокага, Полацка, Наваполацка, Гродна, Мінска. Прысутнічалі святары з Полацка, Ваўкалата і Удзела.**

**■ Зміцер Лупач**

Цэнтр дзейнічае пры каталіцкай парафіі ў Бягомлі, таму і распачалося святкаванне з урачыстай святой Імшы.

На жаль, біскуп Алег Буткевіч не змог прыняць удзел у гэтай урачыстасці, але ў якасці свайго прадстаўніка выправіў у Бягомль Генеральнага вікарыя Віцебскай дыяцэзіі ксяндза Францішка Кісяля, які і ўзначаліў святую Імшу.

Далей былі прэзентацыя дзейнасці, святочны канцэрт, пасадка дрэва цвярозасці і іншыя цікавыя мерапрыемствы.

Мы ж спыталі ў супрацоўнікаў Цэнтра пра выніку перашага года працы.



**Уладзімір Шчэпін, кіраўнік Цэнтра:**

- Першы год быў, відаць, самым цяжкім. На працягу гэтага года было ўсяго: здавалася, нічога не атрымліваецца, нікому гэта не трэба, але потым, чым больш мы давалі інфармацыі і праз прэсу, і праз касцёлы, пра нас пачыналі даведвацца. І вось ужо за першы год праз наш Цэнтр прайшло 15 чалавек. Таму гэты год паказаў, што гэта не дарэмна, усё гэта трэба і магчыма. Таму яго можна назваць годам станаўлення зараз праз наш Цэнтр прайшло паўтара дзясятка чалавек. Можа камусьці гэта лічба падасца невялікай, але для нас гэта вельмі добры вынік. Акрамя гэтага, мы праводзілі семінары для сузалежных людзей, тых, хто жыве побач з алкаголікамі. Такіх семінараў на працягу года было праведзена тры. Для гэтых людзей праводзіліся трэнінгі, чыталіся лекцыі, і яны ад'язджалі ад нас задаволенымі. Калі на першы семінар у студзені прыехала крыху больш за дзесяць чалавек, то на другі ў красавіку ўжо было за дваццаць, а зараз ужо сабралася больш за тры дзясяткі. Інфармацыя пра Цэнтр разыходзіцца, ёсць званкі, людзі прыязджаюць, цікавяцца.



**Канстанцін Субоцін, псіхолаг-практык:**

– Поспехі нашы ў рэабілітантах, чым больш у нас рэабілітантаў, тым больш даверу нам. Значыць, гэта дапамагае. Таму я лічу, што мы добра папрацавалі ў першы год. Цэнтр у нас невялікі, але кожны месяц былі рэабілітанты. І вынікі сярод іх ёсць.



**Тацціяна Шчэпіна, псіхолаг-кансультант Цэнтра:**

– Я лічу, што за год зроблена вельмі шмат. Калі ўлічыць, што пачыналі мы практычна з нуля, амаль не было ніякай інфармацыі, а

**Генадзь Бервячонак, спецыяліст па сувязях з грамадскасцю:**



– Я займаюся пытаннямі жыццядзейнасці Цэнтра, я шукаю магчымасці і сродкі для таго, каб Цэнтр існаваў. Кожны рэабілітант павінен аплаціць расходы на сваё прабыванне тут. Гэта невялікія грошы, але шмат хто і іх не мае. Таму я шукаю сродкі, каб дапамагчы і такім людзям. І тут мяне падтрымліваюць прадпрымальнікі з Глыбокага, за што мы ім вельмі ўдзячныя.

# Мінэканомікі падзяліла Беларусь на 18 «цэнтраў эканамічнага росту»

## Глыбокае можа стаць адным з гэтых "цэнтраў эканамічнага росту"

**Уладзімір Скрабатун**

Румынія мае плошчу 238, 3 км², Беларусь – 207,6 км², г.зн, што Румынія большая за нашую краіну ў 1,14 раза. Прасцей кажучы, Румынія большая за Беларусь на 2-3 Глыбоцкіх, ці Докшыцкіх раёны.

У Румыніі, тым не менш, няма абласнога (губернскага) падзелу! Краіна падзеленая на 42 паветы (жудзецы), адзін з якіх – Бухарэст, сталіца краіны. Выглядае на тое, што ў гэтай краіне, напрыклад, начальнік паліцыі пэўнага павета (жудзеца) справаздачны перад міністрам унутраных спраў Румыніі, начальнік упраўлення сельскай гаспадркі павета справаздачны перад міністрам сельскай гаспадаркі, а кіраўнік (мэр) павета справаздачны перад прэзідэнтам. І ўсё там у Румыніі – нармалёва! Неяк жа абыходзяцца румыны без абласцей (губерняў).

Калі аўтар гэтых радкоў адважыцца сказаць, што Беларусі непатрэбны абласны падзел, то не патрэбныя тады і гэтыя 3 000 ці больш абласных чыноўнікаў, а цалкам па краіне ў 6 абласных цэнтрах – 18 000, а то і больш! Уяўляеце, шаноўнае спадарства, які з гэтага можа ўшчацца гвалт! Цябе здурняць на нішто! Усе абласныя чыноўнікі будуць даказваць сваю выключную значнасць! А румыны без іх неяк жа абыходзяцца!

І ўсё ж, 18 000 чыноўнікаў атрымліваюць добры заробак, ідуць на пенсію раней, як дзяржслужачыя, і з годным пенсіёнам. А ў нашых простых людзей нікчэмныя пенсіі, нізкія заробкі, бо ёсць больш важкія персоны, якім трэба з бюджэту краіны плаціць годны заробак. Вось, праблемка! Куды іх 18 000 падзець? Яны ж касцьмі лягуць супраць касацыі абласцей і павятовага падзелу краіны!

Існуе шмат розных праектаў новага адміністрацыйна-тэрытарыяльнага падзелу Беларусі. Нехта, як Зянон Пазняк, які з'ехаў на эміграцыю, прапануе падзяліць Беларусь на 16 ваяводстваў, пры якім Глыбокае падпадае ў Полацкае ваяводства, а Паставы ў Маладзечанскае.

Ёсць іншы праект – Беларусь мусіць мець 24-26 паветаў, адзін з якіх – сама сталіца Беларусі, Мінск. Па гэтай канцэпцыі паўстане і Глыбоцкі павет, да якога належылі б Глыбоцкі, Браслаўскі, Докшыцкі, Шаркоўшчынскі, Мёрскі і Пастаўскі раёны.

Як і ў Румыніі начальнік глыбоцкай павятовай міліцыі быў бы справаздачны перад міністрам унутраных спраў, гэтак як кіраўнік сельскай гаспадаркі павета, наўпрост – справаздачны перад міністрам сельскай гаспадаркі Беларусі.

На мінулым тыдні Мінэканомікі апублікавала сваю канцэпцыю падзелу Беларусі на 18 "цэнтраў эканамічнага росту". Пры гэтым, падзел на вобласці яшчэ застаецца. Адным з "цэнтраў эканамічнага росту" мусіць стаць Глыбокае. Аднак ад Глыбокага забіраюць Мёры і Мёрскі раён, які адыдзе да Полацка.

Даследчыкі прапануюць глядзець на эканамічнае развіццё Беларусі не па абласцях, у якіх утворацца эканамічна слабыя раёны-«дзіры», а разглядаць Беларусь як лучнасць 18 рэгіёнаў вакол «цэнтраў эканамічнага росту».

Даследчыкі падзялілі краіну на 18 рэгіёнаў, або «натуральна сфармаваных унутрыабласных сістэмаў рассялення» вакол «цэнтраў эканамічнага росту» — такіх гарадоў і раёнаў, вакол якіх канцэнтруюцца вытворчыя сілы, у якіх найбольшая інвестыцыйная прывабнасць і найлепшыя перадумовы для значных эканамічных эфектаў.

У 18 рэгіёнах прапануецца вызначыць перспектыўную спецыялізацыю з партфелем праектаў і праграмаў. Напрыклад, у Полацка-Наваполацкім рэгіёне развіваць нафтахімію і мясамалочную галіну, якія там ужо ёсць, ствараць металургію, турыстычныя кластэры і цэнтры транспартна-лагістычных паслуг. А ў Аршанскім — да энергетыкі, вытворчасці абутку і оптавалакна дадаць IT-паслугі, вытворчасць медычнай прадукцыі, турыстычныя і транспартныя аб'екты, а мо і вытворчасць станкоў, дываноў ды электравымяральных прыбораў.

Пакуль жа, пры цяперашнім падзеле на 6 абласцей і раёны, даследчыкі канстатуюць, што паміж раёнамі існуюць значныя адрозненні ў эканоміцы і дабрабыце, структура эканомікі нестабільная, у бальшыні сельскагаспадарчых раёнаў няма дастатковых даходаў — хоць ёсць нескарыстаныя рэсурсы, вольныя плошчы і нізкія цэны на нерухомасць і працоўныя рэсурсы.

У малазаселеных раёнах адбываецца крытычная страта дэмаграфічнага і працоўнага патэнцыялу, паслугі ўсё больш аддаляюцца ад месцаў пражывання сельскага насельніцтва, а разам з тым у Мінску і цяперашніх цэнтрах эканамічнай актыўнасці растуць сацыяльныя і экалагічныя праблемы.

Тэрытарыяльную неўраўнаважанасць сацыяльна-эканамічнага развіцця называюць у працы аб'ектыўнай заканамернасцю, пераадолець якую надзвычай затратна, а выроўніваць штучна па вобласці — неэфектыўна. Прапануецца не скарачаць адрозненні, а кіраваць імі.

Калі гэтага не рабіць, вялікая частка краіны будзе ў раёнах-«дзірах» з малой шчыльнасцю насельніцтва. Напрыклад, у Віцебскай вобласці да 2030 года «дзірамі» (менш за 5 чалавек на 1 км²) стануць усе раёны, акрамя Віцебскага, Аршанскага (больш за 9 чалавек на 1 км²), Глыбоцкага і Лепельскага (7—9 чалавек на 1 км²) раёнаў. На 2015 год «дзірамі» былі толькі Расонскі і Гарадоцкі раёны.

Цікава нам, як будзе развівацца глыбоцкі эканамічны рэгіён. **Паставы** глядзяцца салідна: вытворчасць мэблі, сельская гаспадарка, дрэваапрацоўка, рыбаводства, вытворчасць харчовых прадуктаў, турызм. **Браслаў:** сельская гаспадарка, вытворчасць харчовых прадуктаў, рыбалоўства, турызм. **Шаркоўшчына:** вытворчасць харчовых прадуктаў, сельская гаспадарка, перапрацоўка ільну, вытворчасць гумовых і пластмасавых вырабаў. **Докшыцы:** сельская гаспадарка, станкабудаванне, ігорны і гасцінічны бізнес, турызм. А вось **Глыбокае** – досыць сціпленька: сельская гаспадарка, вытворчасць харчовых прадуктаў, турызм.

Аднак заўважым, каб канкураваць толькі з адным Глыбоцкім малочна-кансервавым камбінатам, трэба побач паставіць з дзясятак раённых малаказаводаў. А супраць камбікормавага завода няма чаго і паставіць з нашага краю!

Зрэшты, гэта на сёння пакуль толькі прапанова Мінэканоміі.

### Заселенасць тэрыторый Віцебскай вобласці ў 2015-м годзе і прагнозная на 2030-ы год







**Як бачна са схемы на 2015 год, Глыбоцкі, Віцебскі і Аршанскі раёны самыя заселеныя на сёння раёны Віцебскай вобласці – звыш 9 чалавек на 1 км². "Белымі плямамі" цяпер з'яўляюцца Расонскі і Гарадоцкі раёны – менш 5 чалавек на 1 км².**

**Прагноз на 2030 год – несуцяшальны! Ужо амаль уся Віцебская вобласць – суцэльная белая пляма. Застаюцца толькі чатыры раёны: Глыбоцкі і Лепельскі – ад 5 да 7 чалавек на 1 км², а таксама Аршанскі і Віцебскі – звыш 9 чалавек на 1 км². Тое, што Шаркоўшчынскі ці Докшыцкі раёны будуць "белымі плямамі" на фоне Полацкага, ужо, неяк, не здзіўляе! А вось Полацкі раён – "белая пляма"? Менш за 5 чалавек на 1 км²! Між тым, на сёння ў Полацку – 82 тыс. жыхароў, Наваполацку – 102 тыс. жыхароў.**




**Мапа Беларусі паводле Мінэканомікі, якая паказвае 18 "цэнтраў эканамічнага росту".**

# Глыбачане сустрэнуць фігуру Маці Божай Фацімскай

**Паважаныя браты і сёстры ў Хрысце, дарагія глыбачане!**

"Сёлета Каталіцкі Касцёл адзначае 100-годдзе аб'яўленняў Божай Маці ў Фаціме. Як перадае гісторыя, у перыяд з 13 мая па 13 кастрычніка 1917 года, у невялікай мясцовасці Cova da Iria, што каля двух кіламетраў ад Фацімы, раз у месяц, Найсвяцейшая Дзева аб'яўлялася тром партугальскім дзецям – Луцыі, Францішку і Жасінце. Падчас гэтых візіяў Багародзіца папярэджвала свет аб наступствах бязбожнага жыцця і заахвочвала да малітвы, пакаяння і навяртання, каб гэтых наступстваў пазбегнуць.

Сёння, праз сто год пасля тых падзей, мы можам сцвердзіць, на колькі важным было гэтае пасланне для свету, і на колькі важным яно застаецца па сённяшні дзень. Бо і сёння актуальным з'яўляецца заклік да малітвы і пакаяння, дзеля таго, каб пазбегнуць пакарання, якое можа сцягнуць на сябе сучасны свет праз людскі грэх і трываючыя злачынствы.

Свядомыя існуючай сітуацыі ў свеце і паслухмяныя заклiку Найсвяцейшай Дзевы, прагнем далучыцца да гэтай выратавальнай для нас асабіста і для ўсяго свету справы праз набажэнствы, звязаныя з перэгрынацыяй фігуры Маці Божай Фацімскай, якая распачалася ў Шуміліне 13 мая. Гэтая перэгрынацыя ахопіць усе парафіі Віцебскай дыяцэзіі і закончыцца 13 кастрычніка бягучага года ў Браслаўскім санктуарыі Маці Божай Валадаркі Азёраў." (з Паслання біскупа Віцебскай дыяцэзіі Алега Буткевіча)

З гэтай нагоды сардэчна заахвочваем усіх жыхароў Глыбоччыны да актыўнага ўдзелу ў набажэнствах, звязаных з перэгрынацыяй, якая адбудзецца ў нашым касцёле Святой Тройцы, каб такім чынам духоўна злучыцца з усімі хрысціянамі, якія праз апеку Найсвяцейшай Панны Марыі будуць прасіць дапамогі змяніць сваё жыццё, а для свету - шматлікія Божыя ласкі.



**Расклад перэгрынацыі фігуры Маці Божай Фацімскай у касцёле Святой Тройцы ў Глыбокім**

**12 ліпеня**

**17.30** – прывітанне фігуры Маці Божай Фацімскай (на вуліцы перад святыняй);
**18.00** – св. Імша;
**00.00** – св. Імша. Працэсія са свечкамі.

**13 ліпеня**

**09.00** – малітва Легіёна Марыі;
**12.00** – св. Імша;
**18.00** – св. Імша;
**19.00** – фацімскае чуванне;
**21.00** – прагляд фільма "Тры таямніцы Фацімы" (у касцёле).

**14 ліпеня**

**08.00** – Гадзінкі аб Беззаганным Зачацці Найсвяцейшай Панны Марыі;
**10.00** – св. Імша;
**15.00** – вяночак да Божай Міласэрнасці;
**17.00** – развітанне.

На працягу дня касцёл будзе адчынены і будзе трываць малітва ружанцовая і асабістая ў цішыні.

***Кс. Мікалай Ціхановіч,***
*дэкан Глыбоцкага дэканату, пробашч парафіі Святой Тройцы ў Глыбокім.*



# Сумныя вынікі недзіцячых гульняў

**Трагедыя на Лепельскім возеры адбылася 3 ліпеня 2017 года недалёка ад гарадскога пляжу, дзе дзяжурылі супрацоўнікі Асвода. 3 хлопчыкі гулялі на пляжы, пасля чаго адправіліся ў лес і зніклі з поля бачнасці.**

Праз некаторы час да ратавальнікаў падбеглі 2 спалоханых хлопчыкі і распавялі, што іх сябра цалкам засыпала пяском.

Як аказалася, хлопцы гулялі на другім баку яра, дзе вырылі яму. Нечакана зямля абсыпалася на аднаго з падлеткаў. Ён выбраўся, дзеці не надалі гэтаму значэння, і следам за ім у яму залез іншы хлопчык. Раптам пясок цалкам засынаў 11-гадовага падлетка. Аператыўна былі выкліканыя і «хуткая», і МНС, але пасля беспаспяховых спроб рэанімаваць хлопчыка медыкі канстатавалі смерць.

Загінулы – жыхар Мінска, які прыехаў у Лепель на канікулы да бабулі.

8 ліпеня. 2017 года ў Лепельскі РАНС ад дзяжурнага хуткай медыцынскай дапамогі паступіла паведамленне аб атрыманні апёкаў непаўналетнім дзіцем у в. Камень Лепельскага раёна. Як высветлілася, 6-гадовае дзіця, знаходзячыся ў двары свайго дома, кінула падпаленую запалку ў пустую каністру з-пад бензіну. Адбылося ўзгаранне пароў бензіну, у выніку чаго хлопчык атрымаў тэрмічныя апёкі полымем твару і шыі, тэрмаінгаляцыйную траўму. Бацькі выклікалі хуткую медыцынскую дапамогу, пасля чаго дзіця было шпіталізавана ў УАЗ «Лепельская ЦРБ».

Паважаныя дарослыя! **Памятайце:**

- захоўвайце запалкі, запальнічкі ў недаступных для дзяцей месцах;
- не дазваляйце дзецям самастойна карыстацца газавымі і электрычнымі прыборамі, тапіць печы;
- растлумачце дзіцяці, што ў выпадку ўзнікнення пажару неабходна выбягаць на вуліцу і ні ў якім разе не хавацца;
- не запалохваючы дзіцяці, раскажыце правілы бяспекі і «прайграйце» розныя сітуацыі;
- вывучыце з дзіцяці ваш хатні адрас і нумар тэлефона, каб пры неабходнасці ён мог сам звярнуцца па дапамогу ў службу выратавання.

І самае галоўнае, ні пры якіх абставінах не пакідайце дзяцей без нагляду.

*Глыбоцкі РАНС.*

# Трагедыя ў Псуі – вынік ап'янення і курэння ў ложку

**5 ліпеня 2017 года ў 1 гадзіну 42 хвіліны на ЦАУ Глыбоцкага РАНС паступіла паведамленне аб пажары жылога дома ў в. Псуя. Па прыбыцці да месца выкліку назіралася адкрытае гарэнне дома. У 2 гадзіны 56 хвілін работнікамі Глыбоцкага РАНС у жылым пакоі на падлозе знойдзены труп грамадзяніна К., які пастаянна пражываў у гэтым доме. Ён працаваў рознарабочым у КУП(СГ)П «Яблынька».**

Пры правядзенні праверкі ўстаноўлена, што гаспадар жыў у доме адзін. З тлумачэнняў суседзяў устаноўлена, што напярэдадні пажару гр-н К. атрымаў заработную плату і знаходзіўся ў стане алкагольнага ап'янення. З жыхарамі вёскі ён знаходзіўся ў добрых адносінах.

Прадавачка крамы патлумачыла, што прыкладна ў 20 гадзін да яе ў краму прыйшоў грамадзянін **К.**, знаходзячыся ўжо ў стане алкагольнага ап'янення, і купіў бутэльку віна ёмістасцю 0,7 літра.





Прычына смерці грамадзяніна К. усталёўваецца. Найбольш верагоднай прычынай узнікнення пажару з'явілася неасцярожнае абыходжанне з агнём пры курэнні грамадзянінам **К.** у стане алкагольнага ап'янення.

*Глыбоцкі РАНС.*

## У Бягомлі 77-гадовы пенсіянер выехаў на сустрэчную паласу і сутыкнуўся з мікрааўтобусам

**Састарэлы жыхар аграгарадка Ждановічы Мінскага раёна загінуў у выніку ДТЗ, якое адбылося 3 ліпеня ў гарадскім пасёлку Бягомль Докшыцкага раёна.**

Каля 12:50 77-гадовы мужчына, кіруючы «Toyota», выехаў на паласу сустрэчнага руху і сутыкнуўся з мікрааўтобусам «Форд», за рулём якога была 27-гадовая жыхарка аграгарадка Пруднікі. У выніку сутыкнення атрымалі траўмы пенсіянер і 16-гадовы пасажыр мікрааўтобуса.

10 ліпеня кіроўца «Toyota» памёр у бальніцы ад атрыманых цялесных пашкоджанняў, паведамляе прэс-служба ДАІ.

***ННВ***

# Уборачная не за гарамі!

■ А. М. Ішуцін,
*інспектар энергаінспекцыі Глыбоцкага МРА «Энерганагляду».*

**Наступіў ліпень! Надышло спрыяльнае надвор'е, і прыйшла пара ўборкі ўраджаю, што ў сваю чаргу звязана з вялікім аб'ёмам сельскагаспадарчых работ, якія часта праходзяць паблізу ці пад паветранымі лініямі электраперадач.**

У сваю чаргу тэрыторыі ахоўных зон ліній электраперадач не канфіскоўваюцца з сельскагаспадарчага абароту або іншага выкарыстання. Для забеспячэння захаванасці электрычных сетак напругай да і вышэй 1000 В, стварэння нармальных умоў эксплуатацыі гэтых сетак і прадухілення няшчасных выпадкаў вакол электрычных сетак устанаўліваюцца ахоўныя зоны. І не выкананне правілаў работы ў ахоўных зонах электраперадач часцяком прыводзяць да няшчасных выпадкаў. Парадак і ўмовы вытворчасці работ у ахоўных зонах ліній электраперадач павінны быць узгодненыя з арганізацыяй, якая эксплуатуе гэтую лінію.

У ахоўных зонах ліній электраперадачы забараняецца:

– работа высокагабарытных машын і механізмаў, без узгаднення з уладальнікам электрычных сетак і нарада-допуску;

– прыпыненне машын і механізмаў; – транспарціроўка высокагабарытных грузаў;

– знаходжанне абслугоўваючага персаналу на аўтамашыне, трактары, камбайне па-за кабінай або ахоўнага брыля;

– праводзіць якія-небудзь дзеянні, якія могуць парушыць нармальную работу электрычных сетак, прывесці да іх пашкоджання або да няшчасных выпадкаў.

Кіраўнікам гаспадарак неабходна правесці навучанне і інструктажы па электрабяспецы ўсім механізатарам, якія ўдзельнічаюць ва ўборачнай кампаніі. Энерганагляд папярэджвае, што ў адпаведнасці з Кодэксам Рэспублікі Беларусь аб адміністрацыйных правапарушэннях па артыкуле 20.3 «Парушэнне правілаў аховы электрычных сетак» цягне накладанне штрафу ў памеры да 50 базавых велічынь, а на юрыдычную асобу да 500 базавых велічынь.




# Браканьеры здымалі сеткі, а інспектары тым часам здымалі пра іх кіно

■ Аляксей Протас,
*начальнік Глыбоцкай міжрайінспекцыі аховы жывёльнага і расліннага свету.*

**Лета набліжаецца да свайго экватара. Не гледзячы на не вельмі цёплае надвор'е грамадзяне масава паехалі на прыроду адпачыць, папесціць сябе, сваіх блізкіх, сяброў смачным шашлыком.**

Заязджай на любое возера і практычна на кожным сустрэнеш кампанію адпачывальнікаў, асабліва ў выхадныя дні і добрае надвор'е. Усё было б добра, калі б не адно, але. Выязджаючы на прыроду адпачыць, многія грамадзяне не задумваюцца аб наступствах свайго знаходжання, пакідаюць пасля сябе горы смецця, бутэлек, зламаныя лаўкі, высечаныя дрэвы, а асобныя едуць на прыроду, азёры і вадаёмы з браканьерскай мэтай.

Што за адпачынак на вадаёме без рыбалкі, так часта думаюць нашы грамадзяне, і ў агульным жа яны маюць рацыю, зварыць смачную юшку, ды на беразе прыгожага возера, хіба гэта не адпачынак. Але ці заўсёды законна здабываецца рыбка для юшкі. На жаль, яшчэ часта можна сустрэць чалавека з сеткай. Парушальнікаў не палохаюць ні стаўшыя больш жорсткімі санкцыі за незаконна здабытую рыбу, ні штрафы. Інспектарам у такія дні прыходзіцца працаваць удвая больш інтэнсіўна, у выхадныя і святочныя дні далёка не заўсёды атрымліваецца пабыць з сям'ёй і роднымі, паехаць на возера, у лес.

Вось і 8 ліпеня 2017 года каля 6 гадзін раніцы супрацоўнікі Глыбоцкай міжрайінспекцыі заехалі на возера Мажэйкі Пастаўскага раёна, у ходзе яго абследавання інспектары звярнулі ўвагу на адну кампанію маладых людзей, якія адпачывалі на беразе і вырашылі паназіраць за ёй. Не прайшло і 10 хвілін назірання, як адзін з маладых людзей распрануўся, зайшоў у ваду і пачаў даставаць з сетак рыбу, але не паспеў ён выйсці з вады, як яго ўжо прынялі інспектары. Не зусім цвярозы затрыманы з рыбай мужчына патлумачыў інспектарам, што адпачывае з сябрамі на возеры, яшчэ з 6 ліпеня адзначаючы свята «Купалле», сябры былі ў стане поўнай «прастрацыі і нерване» і патлумачыць штосьці фізічна не маглі, сеткі ўстанавіў увечары 7 числа, вырашыў пацешыць сябе і сяброў юшкай, толькі спосаб здабычы рыбы выбраў не зусім законны. Складзены адміністрацыйны пратакол за незаконную лоўлю рыбы сеткамі надоўга запомніцца аматару адпачынку, ды і злоўленая рыбка: 2 акуні і чырвонапёрка – будуць доўга сніцца.

30 чэрвеня 2017 года каля 22 гадзін інспектары затрымалі дваіх пенсіянераў, аматараў рыбкі, якія яшчэ напярэдадні 29 чэрвеня ўсталявалі сеткі на сажалцы ў в. Сяменчыкі Глыбоцкага раёна. Нягледзячы на тое, што на сажалцы яшчэ былі рыбакі, два ўжо не маладых мужчыны напампавалі гумовую лодку і спакойна, нібы гаспадары жыцця, знялі ўстаноўленыя сеткі і, не спяшаючыся, паплылі да берага. Мужчыны, вядома ж, не ведалі, што іх на відэакамеру таксама знялі інспектары, добрае кіно атрымалася! І як толькі нашы парушальнікі выплылі на бераг, іх затрымалі. Улоў стаўся годным – 54 асобіны карася срэбнага, 7 акунёў рачных, 4 асобіны чырвонапёркі, 7 асобін рака, агульная шкода, прычыненая прыродзе, склала больш за 1 тысячу 700 рублёў, а яшчэ затрыманым пагражае штраф ад 20 да 50 базавых велічынь. Вось такая атрымалася рыбалка.

Глыбоцкая міжрайінспекцыя выказвае падзяку ўсім грамадзянам, якія аказваюць дапамогу ў спыненні парушэнняў прыродаахоўнага заканадаўства.

Аб усіх парушэннях прыродаахоўнага заканадаўства просім паведамляць на тэлефоны «гарачая лінія» : 8-02156-5-59-80, мабільныя : 897-23-02, 890- 55-28, 249-45-49, 645-66-78.

# Усе гарадскія пасёлкі Беларусі за пяцігоддзе прывядуць у парадак па прыкладзе Копысі

**Усе гарадскія пасёлкі Беларусі за пяцігоддзе прывядуць у парадак па прыкладзе Копысі. Аб гэтым Прэзідэнт Беларусі Аляксандр Лукашэнка заявіў сёння на сустрэчы з жыхарамі гэтага гарадскога пасёлка і іншых бліжэйшых населеных пунктаў, перадае карэспандэнт БелТА.**

Кіраўнік дзяржавы нагадаў, што рашэнне аб аднаўленні і навядзенні належнага парадку ў Копысі было прынята восенню мінулага года. З таго часу ўжо многае зроблена ў пытанні сацыяльна-эканамічнага развіцця гэтага населенага пункта. Рэканструяваны сацыяльныя ўстановы, інфраструктура, удзелена ўвага вытворчай сферы.

Аляксандр Лукашэнка растлумачыў, што для рэалізацыі гэтага пілотнага праекта быў выбраны менавіта гэты гарадскі пасёлак не таму, што гэта месца яго нараджэння. Гэта звязана перш за ўсё з тым, што Прэзідэнт сам добра ведае гэта месца і можа асабіста пракантраляваць якасць, неабходнасць і запатрабаванасць тых ці іншых мер па развіцці населенага пункта. *"Мы хацелі стварыць прыклад для іншых"*, – сказаў ён.

Паводле слоў Прэзідэнта, сёння прынята рашэнне, што кожны год у кожнай вобласці па прыкладзе Копысі будзе наводзіцца парадак у двух падобных пасёлках гарадскога тыпу. Гэту работу плануецца завяршыць на працягу пяці гадоў.

*"Перад намі стаіць праблема, як развіваць далей краіну, як яе засяліць, дзе павінны жыць людзі,* – адзначыў беларускі лідар. – *А каб яны тут (у пасёлках, падобных да Копысі. - Заўвага БЕЛТА) жылі, тут павінны быць створаны нармальныя ўмовы. Для таго, каб гэты край у будучым працвітаў, тут павінны жыць людзі, будаваць сваё жыллё. Але жыць яны будуць толькі тады, калі будзе добрая, надзейная работа".*

Што датычыцца вытворчай сферы, Аляксандр Лукашэнка заявіў аб планах па яе развіцці. У немалой ступені гэтаму будзе садзейнічаць знаходжанне гарадскога пасёлка паміж дзвюма буйнымі сельскагаспадарчымі арганізацыямі – ААТ "Александрыйскае" і ствараемым ТАА "Купалаўскае". У выніку будзе магчымасць сканцэнтраваць у Копысі перапрацоўку адпаведнай прадукцыі, будуць узводзіцца гандлёвыя кропкі.

*"На прыкладзе Копысі я хачу паказаць усім, якім павінен быць пасёлак гарадскога тыпу, а на прыкладзе холдынга "Купалаўскае" - якой павінна быць сельгасвытворчасць у XXI стагоддзі,* – падкрэсліў беларускі лідар. – *Гэта той шлях, па якім мы будзем ісці, перабудоўваючы і добраўпарадкоўваючы Беларусь".*

Звяртаючыся да мясцовых жыхароў, Прэзідэнт таксама адзначыў, што далейшае падтрыманне парадку і развіццё іх населенага пункта залежаць толькі ад іх саміх. *"Беражыце гэты край"*, – даў наказ ён.



## МНС інфармуе

**на** 11.07.2017 **года**:

**Віцебская вобласць:**
Пажараў – 376;
Гібель людзей – 56, з іх дзяцей –1;
**Глыбоцкі раён:**
Пажараў – 23;
Гібель людзей – 1, з іх дзяцей няма

***

За **2016 год** у раёне адбылося **20** пажараў, на якіх загінула **6** чалавек.
За **2015 год** у раёне адбылося **36** пажараў, на якіх загінулі **3** чалавекі.

